*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 10 (222) | 7 сакавіка 1995 г. | Кошт — 100 рублёў

## *Напярэдадні 8 Сакавіка зычым нашым мілым, прыгожым, любімым жанчынам шчаслівай вясны і цёплага лета!*

# ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **АДБЫЛАСЯ «ПРАМАЯ ЛІНІЯ» ЖЫХАРОЎ НАШАЙ КРАІНЫ СА СТАРШЫНЁЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ МЕЧЫСЛАВАМ ГРЫБАМ**. На пытанне: «Як вы ставіцеся да ідэі Прэзідэнта аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму па сімволіцы і беларускай мове і ці можаце вы як спікер парламента і патрыёт сваёй нацыі, паўплываць на тое, што Канстытуцыя — гэта не урна для смецця, а агульнанародны дакумент. і яго трэба выконваць?» Мечыслаў Іванавіч адказаў: «Лічу, што патрэбы ў такім рэферэндуме на сённяшні дзень у нас няма. Гэтымі пытаннямі мы можам унесці раскол у грамадства і падзяліць людзей на дзве часткі: адны будуць за беларускую мову, другія — за двухмоўе. На нашай тэрыторыі павінна ўсталёўвацца родная мова — беларуская... У адпаведнасці з нашай Канстытуцыяй рашэнне аб правядзенні рэферэндуму прымаецца Вярхоўным Саветам. Прэзідэнт мае права ініцыіраваць рэферэндум. Згодна ж з Канстытуцыяй Вярхоўны Савет не мае права ўносіць змяненні ў яе за 6 месяцаў да заканчэння тэрміну сваіх паўнамоцтваў». Гаворачы пра сімволіку, Мечыслаў Грыб сказаў: «Зноў паўтаруся, што нас прызналі ўжо больш за сто краін свету, прызналі і нашы сімвалы. А ўвогуле сімвалы — гэта святыня. Іх часта не мяняюць». У «прамой лініі» простыя людзі нашай краіны Мечыслава Грыба назвалі «патрыётам сваёй нацыі». Прэзідэнт жа, відаць, ніколі не дачакаецца такіх слоў ад людзей, калі і далей будзе зневажаць беларускую мову і нашы старадаўнія сімвалы.

○ ***САВЕТ КААРДЫНАТАРАЎ РУХУ БЕЛАРУСКІ ІНТЭЛЕКТУАЛЬНЫ РЭСУРС ЗВЯРНУЎСЯ*** *ў Нацыянальны камітэт па святкаванні 50-годдзя ААН, які ўзначальвае прэм'ер Міхаіл Чыгір, з просьбай абмеркаваць на пасяджэнні камітэта пытанне аб магчымасці выступлення кіраўніка беларускага ўрада на Генеральнай Асанблеі ААН з ініцыятывай аб стварэнні пад эгідай ААН новага агенцтва — Сусветнай арганізацыі інтэлектуальных рэсурсаў.*

○ **ПРЭЗІДЭНТ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ БАРЫС ЕЛЬЦЫН, ВЫСТУПАЮЧЫ Ў АКАДЭМІІ НАВУК РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, СКАЗАЎ**: «Развіццё нашых двухбаковых адносін не мае нічога агульнага з якім бы там ні было паглынаннем Беларусі Расіяй. Такіх намераў у нас няма і не будзе. Глыбокая інтэграцыя, цеснае ўзаемадзеянне — так. Гэта — наш выбар». Сказана добра, але ж мы памятаем і пра тое, як Ельцын казаў, што Чачню ніхто не бамбіць, у той час, як расійскія бомбы і ракеты руйнавалі Грозны.

○ ***У БЕЛАРУСІ ПРАЙШЛІ ДНІ КУЛЬТУРЫ УКРАІНЫ.*** *У гарадах нашай краіны адбыліся святочныя канцэрты і мітынгі, накіраваныя на ўмацаванне дружбы і ўзаемапаразумення паміж украінскім і беларускім народамі.*

○ **БЫЛЫ СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ ЛІЧЫЦЬ**, што візіт Прэзідэнта Расіі ў Менск быў выкліканы пошукам палітычнай падтрымкі Беларусі ў сувязі з расійска-чачэнскім канфліктам

*Юбілейнае*

## Радкі паэта наталяюць беларускасцю

Пачынальніцамі розных літаратурных мерапрыемстваў у калектывах найчасцей бываюць жанчыны. Менавіта ім, тонкім душой і інтэлектам, не абдзеленым Богам, але запрыгоненым адвечнай праблемай «жанчына—побыт», найбольш патрэбны ёмкія словы жывых кантактаў з любімым паэтам, пісьменнікам. З усёй шчырасцю жаночай душы яны хочуць парадаваць госця, дагадзіць, улагодзіць, амаль не кранаючы тэмы аналізу творчасці аўтара з боку іх, чытачоў. Як вядома, пытанні, заўвагі, крытычны разбор там, дзе больш ведаў. Невыпадкова ж сярод тых прафесій, што патрабуюць шмат намаганняў дзеля творчага росту, пераважная большасць — мужчыны. Не будзем браць у разлік абсурднасць статыстыкі з-за недарэчнасці дзяржаўнай фінансавай пазіцыі наконт медыкаў і педагогаў. Дарэчы, хай не прагучыць папрокам прыклад, што ў складзе мнагалюднай рэдкалегіі паважанай газеты «Наша слова» сярод надзвычай паважаных прадстаўнікоў, якія ўпрыгожваюць беларускую нацыю, — ніводнай жанчыны. На літаратурных сустрэчах сціплыя працаўніцы-жанчыны настроены, як дзеткі казку,.. бясконца слухаць, люляючы свае ўзнёслыя палымяныя жаданні чытаць, вывучаць, пазнаваць. Жаданні, якія назаўтра ж загоніць у кут порсткасць і жорсткасць жыццёвых абставін. У гэтым плане жанчынам-чытачкам лягчэй з паэтамі — вершы ашчадней да жаночага часу, чым проза, да таго ж, заўсёды знойдзецца тое, што сугучна душы... Дазвольце прыгадаць адну такую сустрэчу, своеасаблівы мосцік паміж часам сённяшнім і 1963 годам, калі быў напісаны верш, уражанне ад якога непадуладна часу. Напісаны сяголетнім яркім, як нязгасная зорка, юбілярам, народным, слынным, славутым, знакамітым (безліч эпітэтаў просяцца з багацейшай скарбонкі беларускай мовы, каларыт якой увесь час узмацняе сам юбіляр) нашым беларускім паэтам Рыгорам Барадуліным. Верш гэты — «Мая мова». Сустрэча тая адбывалася менавіта ў такім жа жаночым калектыве, сустрэча, напэўна ж, не адзіная ў біяграфіі паэта. То быў пачатак 80-х гадоў. Напярэдадні, у «Бібліятэцы беларускай паэзіі» была выдадзена кніга выбраных старонак лірыкі «Белая яблыня грому». Шмат чыталася на сустрэчы вершаў на замову. Слухаючы верш «Бацьку», хтосьці, пад гнётам уласнай тугі, усхліпнуў, чым крышку нават збянтэжыў аўтара, кагосьці па-добраму ўзяў за сэрца (сяброўка сама прызналася ў гэтым) верш «Трэба дома бываць часцей», хтосьці спытаў пра думку паэта наконт сяброў Высоцкага, якія выказалі нябожчыку дрэнную паслугу, тыражыруючы з магнітафонных касет не заўсёды прыстойныя вершы падчас цесных кампаніяў (можа нават перасцерагаючы любімага свайго паэта). «У гаспадарцы павінна быць усё», — прыязна ўсміхаючыся, звёў на жарт гэта пытанне Рыгор Іванавіч. І вось папрасілі прачытаць верш «Мая мова», верш, які, здаецца, кожнай літарай, быццам крынічка, увесь час няспынна журчыць, бадзёрыць, натольвае беларускасцю. Верш даў новы накірунак гамонцы: не ўпрыгожваюць асобных бацькоў іх учынкі аб вызваленні дзяцей ад вывучэння ў школе беларускай мовы. Адна высокапасадная асоба не ўстрымалася, фыркнула: «Успокойтесь, кому он нужен, этот язык, смешно слушать». Разгарэлася спрэчка, канец якой паклаў сам наш сённяшні юбіляр прыкладна так: «Мякка кажучы неразумна, а мулка «спрыяць» такім чынам дзіцяці, прыніжаць народ, які цябе песціць з усёй сваёй аднаму толькі яму характэрнай у такой ступені пяшчотай». Вось радкі таго верша:

*Сцвярджаюць гісторыкі і мовазнаўцы,*
*Што паступова сціраюцца грані нацый*
*і, нібыта як перажытак,*
*аджыць павінна абавязкова*
*Мова маці маёй — беларуская мова.*
*Што мне, як імя ўласнае, блізкая і знаёмая,*
*Што па жылах маіх цячэ*
*і ціхім Сажом і Нёманам...*

*...Калі мова мая ўльецца ў агульны людскі акіян,*
*—*
*Пацячэ ў ім, стрыманая, цёплым Гальфстрымам.*
*І будзе мне сэрца грэць кожным ашчаджаным*
*словам,*
*Бо, як жыта, спрадвечная Беларуская м о в а!*

Шаноўныя бацькі, хай у вашых гаспадарках надалей заўжды прысутнічае родная для нашага краю беларуская мова.

Найпаважанейшы Рыгор Іванавіч! Хай у Вашай асабістай гаспадарцы заўсёды будзе са спрыяльным лішкам тое, што неабходна душы, што люба сэрцу, што яшчэ ярчэй будзе асвечваць ваш розум і талент. Добрага Вам здароўя, бадзёрага даўгалецця.

**Ларыса Рабцэвіч-Бранавіцкая.**
г.Менск.

*Ліст з Аўстраліі*

## Не здаваць Беларусь у прыгон маскоўскай імперыі

**Адзінаццаты з'езд дэлегатаў Федэральнай Рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі звярнуўся да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з прывітаннем і заклікам спыніць расійскую каланіяльную палітыку, якую праводзяць варожыя сілы на тэрыторыі шматпакутнай Беларусі.**

Суверэнітэт Беларусі, адзначаецца ў звароце, знаходзіцца пад пагрозай. Да гэтага часу ў заканадаўчым органе, якім з'яўляецца Вярхоўны Савет, ёсць элемент, які ўсялякімі спосабамі намагаецца скасаваць незалежнасць.

Асноўным законам Рэспублікі з'яўляецца Канстытуцыя 1994 года, дзе ў артыкуле 17 зазначана: «Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова». Наш гістарычны герб ёсць слаўная «Пагоня». Сцяг — бел-чырвона-белы. І будзем спадзявацца, што нацыянальным Гімнам Беларусі канчаткова застанецца наш ужо гістарычны Гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Мы спачуваем, пішуць Прэзідэнту А.Лукашэнку суродзічы з Аўстраліі, цяжкаму эканамічнаму стану, у якім апынулася Беларусь у дадатак да чарнобыльскай бяды і па меры магчымасцяў стараемся дапамагчы дзе можам. Але мы супраць усялякіх пагадненняў, якія пагражаюць суверэнітэту Беларусі, асабліва небяспечных пагадненняў з Расійскай Федэрацыяй у абаронным напрамку.

Мы, падкрэсліваецца ў звароце, катэгарычна супраць уз'яднання Рэспублікі Беларусь з Расійскай Федэрацыяй. Узброеныя сілы чужых краін павінны пакінуць Беларускую зямлю, у іншым выпадку Беларусь апыніцца ізноў у прыгоне маскоўскай імперыі.

Мы звяртаемся да Прэзідэнта і ўрада Рэспублікі Беларусь, гаворыцца ў звароце, прыкласці ўсе намаганні, каб уз'яднаць усе этнічна беларускія землі ў межах Бацькаўшчыны, нягледзячы на тое, якімі змовамі ці здзелкамі гэтыя землі былі адарваныя ад нашай дзяржавы. Вы, шаноўны Прэзідэнт, — пішуць аўстралійскія беларусы, — выбраны беларускім народам бараніць правы і годнасць нашага народа, і таму мы звяртаемся да Вас: зрабіце ўсё магчымае, каб наша дзяржава стала годным сябрам усіх дэмакратычных дзяржаў свету, і мы тут, на чужыне, ганарыліся б, што таксама з'яўляемся часткай гэтага слаўнага народа.

Зварот па даручэнні Адзінаццатага з'езда падпісалі:

**А.ГРУША**, старшыня,
**П.ГУЗ**, сакратар,
**А.ШНЭК**, сябра Прэзідыума.

## «Геапалітыка, інтэграцыя, прагрэс»

Пад гэтым лозунгам у сярэдзіне лютага ў Менску адбылася Нацыянальная асамблея прагрэсіўных сіл Рэспублікі Беларусь, наладжаная грамадскай арганізацыяй з назвай «Нацыянальная асацыяцыя садзеяння сацыяльна-эканамічнай рэформе».

Два дні — 17 і 18 лютага — звыш 200 дэлегатаў канферэнцыі, якія сабраліся з Беларусі, Украіны і Расіі, удзельнічалі ў рабоце некалькіх секцый, ладзілі навукова-практычныя канферэнцыі, «круглыя сталы», семінары, дыскусіі. У праграму асамблеі былі ўключаны і дэбаты вядомых у краіне палітыкаў, дыскусія лідэраў і ўдзельнікаў «ценявых урадаў», а таксама дэбаты, паказаныя пазней па тэлевізіі. У апошніх, дарэчы, не ўдзельнічаў, нягледзячы на запрашэнне, лідэр Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк.

Сам факт правядзення асамблеі і яе вынікі яскрава засведчылі: у Беларусі існуюць сілы, якія актыўна выступаюць супраць вяртання краіны да таталітарызму, за рэформы ў сацыяльнай, эканамічнай і палітычнай сферах, за хутчэйшую інтэграцыю Беларусі ў структуру СНД.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Уражанняў хопіць надоўга

Курсы павышэння кваліфікацыі настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры — справа дзяржаўная. Мне пашчасціла быць у ролі курсанта сёлетніх зімовых курсаў павышэння кваліфікацыі замежных настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры пры Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце.

Але на пачатку выказваю шчырую падзяку таварыству з абмежаванай адказнасцю «Дайнова» (прэзідэнт спадар Адам Палюховіч), якое фундавала мне сродкі для набыцця праязных білетаў па чыгунцы з Украіны да Менска ў абодва бакі. Без дапамогі «Дайновы» мой удзел у рабоце курсаў выкладчыкаў беларускай мовы з замежжа быў бы проста немагчымы, таму што арганізатары — ЗБС «Бацькаўшчына», Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь былі ў стане забяспечыць удзельнікаў толькі харчаваннем і начлегам у інтэрнаце БДПУ, — як кажуць, дзякуем і за гэта...

...Работа курсаў распачалася з сустрэчы курсантаў, якія прыбылі ў Менск з Украіны, Польшчы, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Малдовы і Калінінграда, з першым прарэктарам БДПУ па вучэбнай рабоце, дацэнтам спадаром Мікалаем Плескацэвічам. Мы шмат карыснага даведаліся пра ўніверсітэт. Адбылося таксама знаёмства з дэканам факультэта беларускай філалогіі і культуры Аляксандрам Лугоўскім, загадчыкам кафедры беларускага мовазнаўства Паўлам Міхайлавым, выкладчыкамі кафедры беларускага мовазнаўства Святланай Фацеевай і Алесем Мяцельскім. Менавіта яны і былі ўвесь час разам з намі, апекаваліся намі, за што ад імя ўсіх 20 курсантаў выказваю ім нашу шчырую падзяку!..

Карыснай была сустрэча з першым намеснікам міністра адукацыі і навукі Генадзем Пятроўскім. Мы атрымалі цікавыя звесткі аб школьнай адукацыі Рэспублікі Беларусь на сучасным этапе, аб маючым адбыцца рэфармаванні сярэдняй школы Беларусі. Намесніку міністра было зададзена шмат пытанняў, у прыватнасці, ці ёсць такая неабходнасць, каб вывучаць у беларускамоўных школах асобны курс літаратуры суседняй дзяржавы — расійскай літаратуры, ці будуць унесены змены ў падручнікі па гісторыі Беларусі ў сувязі з «крытычнымі выступленнямі» Прэзідэнта, які абвінавачваў аўтараў падручнікаў у «нацыяналізме», пра забеспячэнне падручнікамі па беларускай мове і літаратуры, гісторыі Беларусі дзяцей беларускага замежжа, пра летні адпачынак дзяцей дыяспары, якія вывучаюць беларускую мову ў школах, нядзельных школках, гуртках беларускай мовы... Генадзь Мікалаевіч адказаў на ўсе пытанні, у тым ліку і на мае адносна курса расійскай літаратуры ў беларускамоўных школах. Спадар Пятроўскі перакананы, што «курс расійскай літаратуры дапамагае вучням у авалоданні расійскай мовай». Асабіста ж я бачу ў гэтым нешта іншае: працяг русіфікацыі падрастаючага пакалення, таму што сёння ў незалежных дзяржавах увогуле расійская мова вывучаецца па жаданні вучняў, а асобнага курса расійскай літаратуры, да прыкладу, на Украіне, дзе мне даводзіцца жыць і працаваць, няма ўжо два гады: лепшыя прадстаўнікі расійскай літаратуры ўвайшлі ў новы курс літаратуры, які называецца «Сусветная літаратура» і вывучаецца на ўкраінскай мове.

Я даводзіў спадару Пятроўскаму, што англійская, французская ды нямецкая літаратуры не бяднейшыя на славутыя імёны, але чамусьці ў школах Беларусі, дзе вывучаюцца англійская, французская ды нямецкая мовы, «для лепшага авалодання» гэтымі мовамі адсутнічаюць спецыяльныя курсы англійскай, нямецкай ды французскай літаратур!.. На гэта спадар Пятроўскі спаслаўся на... Канстытуцыю Беларусі ды Закон пра мовы ў РБ, дзе запісана, што расійская мова — мова міжнацыянальных зносін. Але пры чым тут мова да літаратуры?! Асабіста мне гэта незразумела, і першы намеснік міністра адукацыі і навукі РБ сп. Г.Пятроўскі не змог дапамагчы мне «зразумець», якая ж такая неабходнасць для кожнага беларускага дзіцяці ў абавязковым парадку вывучаць расійскую літаратуру ў тым аб'ёме, у якім яна вывучаецца ў Расіі? Ці не лепей усё ж узяць прыклад з украінцаў?! Што да пытанняў курсанта з Рыгі спадара Вячкі Целеша пра гісторыю Беларусі, сп. Г.Пятроўскі паведаміў, што тое-сёе, безумоўна, у існуючых падручніках будзе выпраўлена, але асноўны змест застанецца, новых падручнікі па гісторыі Беларусі будуць мець ілюстрацыі, карты і іншыя «атрыбуты» падручнікаў гісторыі...

Па пытаннях падручнікаў і летняга адпачынку дзяцей беларускага замежжа ў летніках сп.Пятроўскага дапоўніў супрацоўнік Міністэрства адукацыі і навукі Генадзь Пяцігор. У прыватнасці, ён запэўніў, што з лютага для гуртка беларускай культуры «Зорка Венера», якім я кірую, зноў будуць дасылацца «шэсць перыядычных выданняў на беларускай мове», а спадарыні з Бельска-Падляскага Валянціны Бабулевіч было сказана, што для яе падрыхтавана рэспубліканскай навукова-педагагічнай бібліятэкай партыя беларускамоўных падручнікаў. Запісаў Пяцігор і ўсе заяўкі на адпачынак нашых дзяцей у летніку «Зубраня» на возеры Нарач — дай, Божа, каб гэта толькі здзейснілася!

...Падрабязна я апавяў пра ўсё гэта таму, што не кожны дзень даводзіцца сустракацца з супрацоўнікамі міністэрства, ад якога залежыць якасць і поспех работы настаўнікаў не толькі ў метраполіі, але і ў краінах далёкага і блізкага замежжа, дзе вывучаецца беларуская мова, адкрыты беларускія класы...

А потым пачалася будзённая работа, і першым лектарам быў цудоўны фалькларыст дацэнт кафедры тэорыі і гісторыі культуры сп. Уладзімір Васілевіч. Вельмі хораша гаварыў ён па-беларуску! У мяне ёсць дрэнная звычка заўважаць у мове субяседнікаў словы-русізмы, дык вось магу канстатаваць, што сп. Васілевіч у 2-гадзіннай гутарцы з намі памыліўся толькі адзін раз, назваўшы пацеркі бусамі. Лекцыя Васілевіча — яскравы доказ таго, што беларусы — не нейкія там «белыя рускія», якія няправільна гавораць па-расійску, а самабытная **нацыя**, аб чым сведчыць наша вусная народная творчасць. Гэтулькі тамоў фальклору, што ўжо выдадзены ў серыі «Вусная народная творчасць», не маюць суседзі ані з усходу, ані з поўдня! Асабіста я лічу гэта лепшым доказам у спрэчках, хто ж такія беларусы. Мы — нацыя, якую трэба паважаць за адзін толькі самабытны фальклор, не кажучы ўжо пра нашу літаратуру, пра нашу гісторыю, пра нашу мілагучную мову! Карыстаючыся выпадкам, хачу заклікаць беларускі ўрад дапамагчы выдавецтву «Навука і тэхніка», якая рыхтуе да друку тамы БНТ, сродкамі, каб гэтая серыя працягвала выходзіць з друку, бо, як казаў нам сп.Васілевіч, сёння чарговыя тамы фальклору не могуць быць надрукаваны з-за адсутнасці сродкаў у выдавецтве.

Цікавую лекцыю па гісторыі дзіцячай літаратуры прачытала дацэнт кафедры беларускай літаратуры, аўтар падручніка «Роднае слова» для 3 класа Марыя Шаўлоўская. Бліскучымі аказаліся лекцыі загадчыка кафедры гісторыі і тэорыі літаратуры прафесара Аляксея Рагулі. Апошняя закончылася шквалам апладысментаў удзячных слухачоў. Як самы каштоўны падарунак прывёз я з сабою з Менска метадычны параднік прафесара Рагулі «Беларуская літаратура ў 4 класе» з аўтографам аўтара. Дзякуй Вам, вельмі шаноўны Аляксей Уладзіміравіч, за гэты падарунак, за Вашу цудоўную і змястоўную лекцыю пра дзеячаў беларускай літаратуры і за Вашую нястомную барацьбу з тымі, хто бачыць свой абавязак не ў служэнні беларускаму народу, а ў прыстасаванні да ўлады. У нашых вачах Вы — эталон беларуса-патрыёта. Пабольш бы такіх прафесараў было ў БДПУ!.. І не толькі ў БДПУ, а ва ўсіх ВНУ Беларусі.

Цікавымі і змястоўнымі былі гэтаксама лекцыі і іншых выкладчыкаў: Таісы Грамадчанкі, Міколы Мішчанчука, Надзеі Старажавай, Юзэфы Валынец, Алы Кажэры.

...Не адным толькі лекцыямі былі напоўнены нашыя дні на гістарычнай Бацькаўшчыне. ЗБС «Бацькаўшчына» ў асобе сп. Ніны Петуховай разам з першым прарэктарам БДПУ Мікалаем Плескацэвічам забяспечылі нам вельмі насычаную культурную праграму. Мы тройчы наведвалі менскія тэатры: Нацыянальны імя Янкі Купалы, Акадэмічны тэатр балета «Беларускі балет», тэатр «Вольная сцэна», пабывалі ў музеях Багдановіча, Купалы, Коласа, Нацыянальным клубе Саюза пісьменнікаў Беларусі на імпрэзе, прысвечанай часопісу «Неман»... Уражанняў хопіць на цэлы год!..

Запомніўся ўсім нам і прыём у ЗБС «Бацькаўшчына», дзе мы пазнаёміліся з членамі Управы. І ўсюды мы спявалі разам цудоўныя нашы беларускія песні, думалі, што лепш за нас спяваць іх ніхто не ўмее! Але... калі пабывалі ў дзіцячым садку № 468 Менска, пераканаліся, што дзякуючы намаганням музычнага кіраўніка Святланы Лукашук лепей за нас спяваюць усё ж выхаванцы гэтага садка. І не толькі спяваюць, але і скачуць. Запрасілі і нас на скокі — ох, і весела было!

За гэты тыдзень мы папоўнілі свае валізы падручнікамі па беларускай мове, літаратуры, гісторыі і геаграфіі Беларусі, мастацкай літаратурай, метадычнымі дапаможнікамі, якія набылі не толькі ў кнігарнях, але атрымалі ў прэзент ад ЗБС «Бацькаўшчына», БДПУ, рэспубліканскай навукова-педагагічнай бібліятэкі (дырэктар бібліятэкі спадарыня Алена Шамелава)... Напрыканцы да нас завіталі рэктар БДПУ Л.Ціханаў і прарэктар па міжнародных сувязях Уладзімір Атрошчанка. Сп.Ціханаў запэўніў нас, што перавод вучэбнага працэсу ва ўніверсітэце на беларускую мову не будзе спынены: першы курс ужо працуе на дзяржаўнай мове, таму ўсе тыя антыбеларускія сілы, якія апладзіравалі Лукашэнку, калі пачулі з яго вуснаў, што «хто как хацит, так и препадаёт», павінны апамятацца. Педагагічны ўніверсітэт у Менску невыпадкова называецца беларускім. Дзякую Вам, спадар Ціханаў, за правільны курс у сваёй рабоце. Мы, беларусы далёкага і блізкага замежжа, вітаем Вас і калектыў БДПУ ў імкненні зрабіць універсітэт беларускім, поспехаў Вам!!! Прыемна было не толькі пачуць іншых, але сказаць і сваё... Словам, мяркую, семінар удаўся, як кажуць, першы блін — **не камяком! Усе прысутныя на** семінары выказалі свае пажаданні працягваць такія вось сустрэчы-сімпозіумы. Праўда, у іншыя тэрміны, калі не так холадна на вуліцы і... у пакоях інтэрната. Разумеем, што ад БДПУ тэмпература ў пакоях інтэрнатаў не залежыць: цяпло падаецца цэнтралізавана для ўсяго горада...

...А закончыць мне свой допіс хочацца словамі паэта Пімена Панчанкі:

*Да роднай зямлі я*
*Душою і сэрцам прыкуты,*
*Куваюць зязюлі,*
*Клякочуць буслы на маёй Беларусі.*
*Ты радасць мая, Беларусь,*
*Ты гора маё і пакута,*
*І ад цябе я ніколі*
*Не адцураюся,*
*Не адракуся!*

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг, кіраўнік гуртка беларускай культуры «Зорка Венера».**
г.Ізяслаў, Украіна.

***Пытанне — адказ***

# Мова Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы – народная

Рэдакцыя часопіса «Унія» атрымала ліст ад аднаго з чытачоў «Нашага слова». Спадар Сянько В.В. з Калужскай вобласці Расіі піша, што яго зацікавіў у газеце артыкул «Вяртанне марыянаў на Беларусь» (№ 46, 1994 г.).

«Справа ў тым, што сам я паходжу з Навагарадчыны і толькі абставіны змусілі мяне апынуцца ў Падмаскоўі. Змалку я цікавіўся уніяцкай верай, паколькі дзяды мае яшчэ лічылі сябе уніятамі, хаця ўжо хадзілі ў праваслаўную царкву. На жаль, я ў юнацтве не меў магчымасці бліжэй пазнаць уніяцтва, бо адзіная уніяцкая парафія на ўсю Навагарадчыну была даволі далёка, аж у Дзяляцічах ля Навагарадка.

Клопаты нашых дзядоў у вёсцы аб вяртанні мясцовай царквы да уніяцтва нічога не далі, і ўсе яны працягвалі хадзіць у праваслаўныя цэрквы, дзе служылі расійскія папы, якія ў большасці паходзілі з былых царскіх афіцэраў. Нават у самым Навагрудку, дзе я потым вучыўся ў гімназіі, нас вадзілі ў праваслаўную царкву, колішнюю уніяцкую айцоў базыльянаў, што на былой Базыльянаўскай вуліцы. Так што, як бачыце, я нейкім чынам маю адносіны да уніяцкай веры», — на добрай беларускай мове піша сп.Сянько, наш суайчыннік з Расіі.

Аўтар ліста просіць адказаць на пытанні пра сучасную Уніяцкую (ці, як часцей цяпер пішуць, Грэка-Каталіцкую) Царкву. На адно з гэтых пытанняў, пра мову набажэнстваў, варта, мабыць, адказаць на старонках «Нашага слова».

К таму часу, калі на Беларусі знікла небяспека для тых, хто вызнаваў сябе грэка-каталіком (канец 80-х гадоў), а.Аляксандр Надсан, Апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў у замежжы, ужо пераклаў частку богаслужбовых тэкстаў на беларускую мову. Так што пытання пра асноўную мову богаслужэнняў у прынцыпе не было. Яно зусім спантанна, без спрэчак і нават доўгіх дыскусій вырашылася на карысць роднай мовы. Час сведчыць, што рашэнне аказалася слушным — беларуская мова выдатна спраўляецца з абавязкам перадаваць Слова Божае людзям, служыць сродкам рэлігійнай адукацыі. Па-беларуску ідзе выкладанне ў нешматлікіх яшчэ нядзельных школах для дзяцей, па-беларуску моляцца, спяваюць, разважаюць маладыя людзі на сваіх спатканнях і рэкалекцыях (адмысловых духоўных занятках). Па-беларуску будзе выдавацца грэка-каталіцкая газета «Царква», першы нумар якой выйдзе ўжо днямі.

Што да царкоўнаславянскай мовы, традыцыйнай і для Грэка-Каталіцкай Царквы, то і яна ўжываецца, але значна менш. Айцец Сяргей Гаек, Апостальскі візітатар для грэка-каталікоў на Беларусі, у сваім Пастырскім лісце («Наша слова», № 27, 1994 г.) піша так: «Гэта (ужыванне беларускай мовы. — І.І.) не выключае, у душпастырска абаснаваных выпадках, карыстання тэкстамі ў царкоўнаславянскай мове, каб падкрэсліць непарыўнасць нашай традыцыі і брацкую, літургічную сувязь з іншымі цэрквамі візантыйска-славянскага абраду». У грэка-каталіцкім манастыры ў Полацку, напрыклад, у большасці выпадкаў служаць на царкоўнаславянскай мове. У любым выпадку нейкіх праяваў «канкурэнцыі» моў не назіраецца.

Што да іншых моў, то святары ў Менску выказвалі жаданне служыць і па-украінску, але дастатковай колькасці вернікаў украінскага паходжання яшчэ не знайшлося.

Застаецца толькі дадаць, што богаслужбовую літаратуру на беларускай мове для Грэка-Каталіцкай Царквы невялікімі накладамі выпускае ў Лондане выдавецтва «Божым шляхам», а з гэтага года на Беларусі — выдавецтва «Унія» (выдавецкая суполка «Унія» ТБМ імя Ф.Скарыны) у Менску. Сёлета будзе выпушчана чатыры малебны і акафісты і масавым тыражом тэкст св.Літургіі Яна Залатавуснага — асноўнага богаслужэння ў царкве.

**Ігар ІВАНОЎ,**
**рэдактар выдавецтва «Унія».**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



**Вам, школьнікі!**

*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

## Сусветная літаратура ў школе
X клас (паглыбл.)

# Сапфо

(першая палова VII ст. да н.э.)

***Сапфо — славутая паэтэса антычнай Грэцыі. Нарадзілася ў Эрасе, на востраве Лесбас, з маленства засталася сіратою, выхоўвала сама сваіх братоў. У родным горадзе яна ўтрымлівала школу для дзяўчынак, выкладала ім паэзію, музыку, танцы. Яшчэ пры жыцці атрымлівала лаўровыя вянкі за перамогі на паэтычных усягрэцкіх алімпіядах. Вялікі філосаф Платон называў Сапфо дзесятай музаю за створаныя ёй шэдэўры любоўнай лірыкі і эпіталаміі (вясельныя спевы), з якіх да нас дайшла толькі невялікая частка.***

***Сапфічную страфу выкарыстоўваў у сваіх вершах Сімяон Полацкі. Гэтай страфой напісаны, напрыклад, і верш Ул.Дубоўкі «Здані».***

***Л і т а р а т у р а:***
***Толстой И.И. Сапфо и тематика ее песен // Статьи о фольклоре. — М., 1966.***
***Ярхо В.Н., Полонская К.П. Античная лирика. — М., 1967. С.49—52.***
***Лапидус Н.И. Античная литература. — Мн., 1986. С.30—31.***
***Page D.L. Sappho and Alcaeus. — Oxford, 1955.***

### Гімн Афрадыце

Прад табой чало хілю, Афрадыта,
Зеўсава дачка — што ў цянёты вабіш;
Неўміручая, я малю: ты смуткам
Сэрца не рві мне,

А сыдзі з вышыняў зноў, як калісьці:
Голас мой тады з далячынь ты чула
І бацькоўскае пакідала неба,
Як я прасіла.

Птушкі хіжыя калясніцу неслі
Залатую па-над зямлёю чорнай,
І раз-пораз лопат магутных крылаў
Чуўся ў паветры.

Прамяністую, я цябе пазнала —
Неўміруча-ўсмешліва і лагодна
Ты спытала, што ад цябе хачу я,
Што мяне цвеліць,

Хто агонь журботы ўва мне раздзьмухаў
І каго багіня замоў любоўных
Мне прывесці мае, і хто зрабіў мне
Гэтак балюча?

Так казала: не заўважае?.. — Ўбачыць!
Не бярэ дароў?.. — Сам з дарамі прыйдзе!
Не кахае?.. — Дык закахаецца моцна,
Хоць і міжволі...

Дык сыдзі ж і сёння з прыступак трона:
Не дазволь змарнець мне ў журбоце
дзікай —
У нялёгкай гэтай страшэннай хвілі
Дапамажы мне!

* * *

Роўным богу мне падаецца ў шчасці
Чалавек, які, гэтак блізка-блізка
Седзячы з табой, твой пяшчотны голас
Слухае ўважна.

І цудоўны смех. У мяне пры гэтым
Перастала сэрца б адразу біцца.
Як цябе я ўбачу — больш не магу ўжо
Вымавіць слова.

Мой язык імгненна дранцвее, хваляй
Лёгкі жар пад скураю прабягае;
Вочы ўжо не бачаць. А вушы чуюць
Звон несціханы.

Пот з мяне гарачы цячэ, дрыжу я,
Ззелянела ўся — ужо нават болей
За траву. І мае жыццё нібыта
Скончыцца мусіць,

Ды цярпі, цярпі: ўжо далёка надта
Ўсё зайшло...

* * *

Поўню пекную атачаюць зоркі —
Твар, што зззяе, бы ў покрыва ўкруцілі,
Каб яна адна ўсяму свету поўнай
Славай сваціла.

**Пераклад са старагрэцкай Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

***Філалогія***

# Гэта ўжо не ўсходнеславянская мова

Як сцвярджае Я.Карскі, а таксама іншыя вучоныя, у старой пісьменнасці асаблівасці беларускай мовы пачынаюць выяўляцца толькі з XIV ст. Па дадзеных Г.Штыхава, у пісьмовых помніках XII—XIII стст. яны рэдкія. У адным з тураўскіх твораў таго часу сустракаюцца словы *карэц* — коўш для піцця з карнявішча, *дзецкія* — слугі князя; у творы К.Смаляціча — *сябры, ляда, пожні...*, у «Житии» А.Смаленскага — *наставник, злодий, велми потреба* і іншыя. У гэту пару, па думцы Л.Шакуна, існаваў перыяд стараруcкай літаратурнай мовы як зыходны этап у гісторыі ўсходнеславянскіх моў (XI—XIV стст.). У гэты час вялікае пашырэнне атрымала дзелавая пісьменнасць або «бытавы тып літаратурнай мовы». У ёй роля кніжных славянізмаў амаль не адчуваецца. Фарміраванне старабеларускай пісьмовай мовы ішло шляхам паступовага пранікнення ў старажытнарускую пісьмовую мову беларускіх лексічных і граматычных асаблівасцей. Гэта можна прасачыць на наступных прыкладах.

У XI томе Актаў Літоўскага Трыбунала, выдадзеных Археаграфічнай камісіяй у Вільні ў 1880 г., надрукаваны дакумент 1398 года. Гэта *«Обмежевание спорныхъ земель Лавришовского монастыря, произведенное... по приказанью великого князя Витовта»*. Аўтары патлумачылі: гэты дакумент, за выключэннем знакаў прыпынку, з прычыны яго старажытнасці надрукаваны з дакладным захаваннем арфаграфіі... Вось урывак з яго: *«Жаловалъ се архимандритъ Лавришовский Мисайло, што черезъ монастыръ князя великого люди дорогу положили по дрова и по лыка і по вязье, и жоны ихъ и дети ихъ у снитъку туда ходятъ, а о той дорозе монастыру великая кривьда и татьба деетьсе. Алесь вольный... князя великого людемъ у лесъ уехавши дровъ насечь, вязья и лыкъ надрать, иного ничего не надобе пакостити...»* Далей сустракаюцца беларусізмы: *зь, одъ, хресьта, не терать, вътуповати, тые, тое, тыхъ, сеножать, здавна, урадили, тягъло, усътупатисе, бояры, сумежъцомь, ведати, порушать, пан, рублевъ, иньшихъ. Писанъ у Лавришове.* Аўтары паясняюць: гэты манастыр — найстарэйшы з усіх праваслаўных заходняга краю, заснаваны ў 1262 г. князем Войшалкам на беразе Нёмана каля Навагрудка.

Падобнаю моваў напісана *«Привилегия короля Александра Свислоцкому наместнику Гротыке на плацъ въ городе Вильне...»* 1410 года. Тут шмат беларускіх слоў: *чинимъ, знаменито, листомъ, хто, або, потреба, чаломъ, тымъ, местце на будованье, дозволили, тежъ, вольную, абыхьмо, зъ ласки, нашое, потымъ, ізадкомъ, казали, вжиточному, лепшому, найлепей, розумеючи... Писанъ у Люблини.* Добра бачны беларускія асаблівасці мовы ў «Фундушовай записи, данной Анною Вижевичовою Сулятицкой церкви» ад 1433 г. Напрыклад, *прозвищемъ, порушаною кухвале Божой, зостаючи зуполной моцы, умыслиломъ, приемную маетность, отправована, чотыры* і іншыя.

І хоць аснова мовы гэтых і падобных дакументаў таго часу застаецца яшчэ стараруская, а «беларусізмы не складаюць яшчэ нормы пісьмовай мовы» (А.Жураўскі), усё-такі гэта ўжо не «руская» мова, як яе называюць у актавых запісах. Так адбываўся пераход і ўтварэнне старабеларускай пісьмовай мовы.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**настаўнік-пенсіянер.**
г.Ашмяны.

# «Якуб Колас — мой стрыечны дзядзька»

Аднаго дня ў Жлобінскім гісторыка-краязнаўчым музеі праходзіла адкрыццё чарговай персанальнай выставы. На гэты раз на суд аматараў жывапісу прадставіў свае карціны ўдзельнік Другой сусветнай вайны самадзейны жлобінскі мастак Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч. Шчыра кажучы, у той дзень мяне зацікавілі не столькі яго творы, колькі імя і прозвішча. Ці не сваяк ён, часам, Якуба Коласа — Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча?

— Супадзенне нашых прозвішчаў не выпадковае, — адказаў на маё пытанне мастак. — Мой бацька Міхаіл Карлавіч Міцкевіч і Якуб Колас нарадзіліся ў адной мясцовасці і даводзіліся адзін аднаму стрыечнымі братамі, якіх яшчэ ў маладосці жыццё раскідала ў розныя бакі.

Неўзабаве пасля гэтай сустрэчы я наведаў Канстанціна Міхайлавіча з фотакарэспандэнтам раённай газеты А.Шайновым у яго доме. Шмат цікавага мы даведаліся тады ад Канстанціна Міхайлавіча, азнаёміліся з яго карцінамі, якія не трапілі на выставу, а пасля вырашылі правесці невялікае расследаванне. Звярнуліся ў Літаратурны музей Якуба Коласа. Яго дырэктар Зінаіда Мікалаеўна Камароўская паведаміла, што музей сапраўды мае дакументы, якія сведчаць, што Якуб Колас і Міхаіл Карлавіч Міцкевіч сваякі, аднак дакладных звестак пра стрыечнага брата класіка беларускай літаратуры яны не маюць. Тая навіна, што ў Жлобіне жыве стрыечны пляменнік Якуба Коласа, стала для работнікаў музея прыемнай нечаканасцю. У бліжэйшы час яны туды выедуць, каб папоўніць (са слоў Канстанціна Міхайлавіча) звесткі пра радавод Міцкевічаў. А я тут абмяжуюся кароткім пераказам фактаў з біяграфіі пляменніка Якуба Коласа. Яго бацька Міхаіл Карлавіч апынуўся на Жлобіншчыне напачатку XX стагоддзя. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ён займае пасаду сакратара Стараруднянскага сельсавета. Яму давяраюць адказную пасаду і ў райвыканкаме. На Жлобіншчыне Міхаіл Карлавіч сустрэў будучую жонку — Мітрадору Канстанцінаўну Мядзведзеву (1890—1972). У іх было пяцёра дзяцей: Яўген, Лідзія, Ірына, Канстанцін і Міхаіл. Усім ім выпаў нялёгкі жыццёвы лёс. У 1922 годзе Міхаіл Карлавіч памёр. Двухгадовы Костусь выхоўваўся ў дзіцячых дамах (Рагачоў, Орша, Менск і інш.). У 1935 г. ён скончыў школу ў Жлобіне і працаваў мастаком-афарміцелем у розных культурных установах. У 1939 г. Міцкевіч вярнуўся ў Жлобін. Нейкі час працаваў на Украіне, а напачатку 50-х гадоў зноў вярнуўся на радзіму. І ўсе гэтыя гады, канешне ж, маляваў, маляваў. І вось сямідзесяціпяцігадовым нарэшце дачакаўся сваёй персанальнай выставы.

— Калі мы прапанавалі Канстанціну Міхайлавічу правесці яго персанальную выставу, — сказаў у час яе адкрыцця старшыня творчага аб'яднання мастакоў Жлобіншчыны Уладзімір Ганжа, — ён нам спачатку не паверыў, а потым на яго вачах з'явіліся слёзы...



перабраўся ў Брэст, дзе яго і застала вайна. Давялося зведаць нямецкі канцлагер і акупацыю. Канстанцін Міхайлавіч уключыўся ў падпольную і партызанскую барацьбу супраць захопнікаў. Ваяваў у 117-м партызанскім атрадзе брыгады Жалезняка, з 1943 г. у Савецкай Арміі. Вызваляў Мазыр, Калінкавічы, Варшаву, браў Берлін. Узнагароджаны Ордэнамі Айчыннай вайны I і II ступеняў, медалямі. У 1945 г. Канстанцін

Усё гэта сведчыць аб сціпласці Канстанціна Міхайлавіча, у чым можа ўпэўніцца кожны, хто пазнаёміцца з ім.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**
г.Жлобін.

**На здымку:** К.М.Міцкевіч з адной са сваіх работ.
**Фота Аляксандра ШАЙНОВА.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

